СУБОТА, 1 ЛІСТАПАДА 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопіс, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

ГОД I. ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 19.

*Вільня, 1 лістапада 1919 г.*

Настала для нашай Бацькаўшчыны вялікая часіна. Тое, чаго ўжо дабіваўся Усебеларускі Конгрэс у 1917 г.—утварэньне ўласнай беларускай аружнай сілы — перайшло з сфэры думак-лятуценьняў на рэальны грунт. Загад аб фармаваньні беларускага войска падпісаны Начальнікам Польскай Дзержавы, Я. Пілсудскім.

Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны дастала гэткую тэлеграму ад прадстаўнікоў Беларускай Вайсковай камісіі: „Загад аб фармаваньні арміі падпісаны ў чацьвер. Пасылаем найглыбейшае прывітаньне ў гістарычную часіну пачатку тварэньня збройнай нацыянальнай сілы, каторая будзе бараніць Бацькаўшчыну“.

Трэба, каб усе як сьлед сьцямілі вагу гэтага вялікага ў адраджэньні нашай Бацькаўшчыны мамэнту; асабліва-ж тыя, каму на долю выпала шчасьлівая роля стаяць у першых шарэнгах нашых вояў. Трэба памятаць, каб „чыста было ў хаце“, каб адзін дух ажыўляў усіх: ўсё за волю Бьцькаўшчыны! Салдат наш павінен быць сьвядомы, куды ён і дзеля чаго йдзе. Дух патрыатызму павінен панаваць усюды—ад ніжэйшых да вышэйшых.

Вось якія зусім правільныя на гэту тэму думкі высказывае менская „Беларусь“:

„Перш за ўсё мы павінны памятаць што перад намі самая найважнейшая і як пакажа далейшы ход справы, даволі трудная задача: *дасягнуць таго, каб войско нашае было папраўдзе беларускім*...

Трэба пастарацца усьведаміць нацыянальна кожнага нашага ваяку і ясна паставіць прад ім вялікую мэту адбудовы *нашай беларускай дзяржаўнасьці* ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі. Тут зьявіцца вялізарнейшая патрэба ў популярнай нашай літэратуры, у спэцыяльным вайсковым беларускім друкаваным слове і на гэта трэ будзе направіць шмат нашай сілы...

Кожны афіцэр, ці пад-афіцэр (а, дай Божа, каб і салдат) бязумоўна умеў, як належыць, *гаварыць, пісаць і чытаць пабеларуску*. Як толькі гэтага мы дасягнем, дык рэшта ўсё само сабою зробіцца. Ухіляцца ад гэтых прынцыпаў у бок, дапушчаць тую, ці інтую слабасьць ні ў якім разе нельга, бо йначай мы зробім ня тое, што хочам, ня тое, што трэба,—мы зробім не сваё, а чужое. Тут, разумеецца шмат труднасьцяў, але перад імі спыняцца нельга ні на адну мінуту. Трэба зараз-жа, як толькі зарэгіструецца даволі значны лік афіцэраў, ці пад-афіцэраў, адкрыць для іх нашыя курсы, даць ім гатовыя вайсковыя падручнікі, абаснаваць прад імі ясна мэту іх вялікай работы і абудзіць у іх пачуцьцё няўхільнага пераканання ў тым, што адраджэньне бацькаўшчыны настало і выльецца яно ў поўнай форме калі не сягодня, дык заўтра. Трэба, па магчымасьці, азнаёміць іх з ваеннымі момэнтамі нашай гісторыі за літоўскі, польскі і нават за пакрыты сівізнаю мінуўшчыны полацкі пэрыяд.

Азнаёміўшыся з вялікімі момэнтамі нашай слаўнай мінуўшчыны, ваяка наш будзе напэўна ўжо сьвядомым нацыянальна і дабравольна прыме яркія азнакі гэтай сьвядомасьці — нашу мову і нашу граматнасьць. А, ў праціўным выпадку, яму й ня месцо у *нацыянальна-беларускім* войску. Бо калі, будуючы нашу школу, мы дапускалі недапусьцімае, калі ў беларускіх нашых школах і прытулках іншы раз здаралося, што настаўнік гаварыў да вучняў *не пабеларуску*, дык ніколі ў сьвеце ня можна дапусьціць, каб у беларускім войску афіцэр гаварыў да салдата не пабеларуску. Гэта-ж, нарэшце, зусім ясная аксіома. Бо йначай беларускае войско будзе аднэй толькі пустою назваю і выяўляціме сабою non sens“.

Ведама, усюды ёсьць многа непажаданага элемэнта. Напэўна знойдзецца ён і між запісаўшыміся ў беларускую армію. Але мы верым, што ў хуткім часе беларускае войска ачысьціцца ад людзей, якія ўшчамляюцца ў беларускія шарэнгі не дзеля ідэі, але толькі для куска хлеба, а то і з іншымі мэтамі.

Хай пад беларускім мундзірам ня знойдзецца ні воднага не пабеларуску бьючагося сэрца!

# МЭТРОПАЛІТ ШЭПТЫЦКІ.

(Нарыс).

Львоўскі архі-ўладыка і галіцкі мэтраполіт Андрэй Шэптыцкі з брацтва сьв. Базыля Вялікага ёсьць нязьвычайная і вядомая па ўсім сьвеце адзінка ў цяперашнім каталіцкім эпіскопаце. Яго жыцьцё, надта дзіўнае і цікаўнае, з часам будзе багаты здарэньнямі жыцьцёвы нарыс. Трудна цяпер загадзя сынтэтычна аб'яць рэзультаты біскупскай працы мэтраполіта, я тут хачу толькі папрабаваць накідаць яго эскіз, гэткім чынам перасылаючы яму скромную чэсьць з старонкі беларускіх балот і лясоў дзеля нідаўна мінулай XX-ай гадаўшчыны яго біскупскай дзеяльнасьці.

Мэтраполіт па бацькаўскай лініі вядзе свой род безумоўна з рускай старой сямейкі, якая аднак разам з іншымі перайшла на лацінскія абрады і гэтак спольшчылася. Род Шэптыцкіх даў у мінулых сталецьцях некалькі ўладыкаў. Мусіць успаміны аб іх асабліва мелі ўплыў на маладога графа Рамана (гэтакае імя меў раней мэтраполіт у сьвеце), перад каторым адчынялася тады вялікая кар'ера ў цэсарска - каралеўскай Аўстрыі. У яго збудзілося жаданьне павароту да рускага абраду і рускага народу, якіх яго продкі ў крытычную часіну пакінулі, а цяцер у час рэлігійнага і нацыянальнага адраджэньня гэтак патрэбуюць згоднага дзеяньня сваей інтэлігэнцыі.

У вось раз у браму аднаго з базыльянскіх манастыроў ізноў пастукаўся далёкі патомак мінулых уладыкаў. З гэтага момэнта пачалася ахвярная, гарачая служба маладога графа, які дагэтуль быў ясьневяльможным дзедзіцом, служба дзеля роднай уніяцкай Царквы і дзеля рускага народа. Той абмыліўся-бы, хто-б думаў, што ўступленьне ў Базыльянскі манастыр мело для будучага мэтраполіта значэньне толькі ўнешняе, часовае і было толькі сьцежкай да заняцьця вышэйшага духоўнага становішча. Верным сынам сьв. Базыля, поўным надзвычайнай пакоры і інш. мэтраполіт астаўся да сягоньня. У сваім палацы ў Львові ён вядзе жыцьцё манаха, найахвотней зачыняючыся ў вадным невялічкім, скромна абстаўленым пакоі, а як прыходзе ў базыльянскія манастыры, нераз сам служыць братам манахам. Пашану для гэтай дэлікатнай пакорнасьці я спатыкаў нават у людзей зусім інакш глядзеўшых на справу.

Адзін з малодшых братоў мэтраполіта так сама пайшоў у манастыр і гэткім чынам зышоўся ў духоўнай працы дзеля уніяцкай Царквы і рускага народу з мэтраполітам. Бачым, значыцца, як па малу семья варочаецца да сваей Маці, якая яе выкарміла і ўзгадавала. Прайшло ўжо чверць сталецьця ад часу як мэтраполіт высказаўся за Уніяцкую Царкву і рускую нацыянальнасьць, а эндэцка настроеная частка польскага грамадзянства дагэтуль ня можа забыцца і выбачыць яму гэтага кроку. Якія толькі не рабілі яму закіды?! Risum teneatis amici!— ублуталі нават... этыку! Гэтыя самыя, якія ўважаюць зусім этычным пераход у польшчыну беларускай, літоўскай і украінскай шляхты, палічылі неэтычным паварот патомка да абрадаў і нацыянальнасьці продкаў! Канечне хацелося ім, каб традыцыі па матчынай лініі (маці мэтраполіта — дачка знамянітага польскага пісьменьніка Фрэдра) узялі верх над традыцыямі службы Богу і рускаму народу паводле бацькаўскай лініі.

Наступнік сьв. п. кард. Шэмбэтовіча, мэтраполіт Шэптыцкі на сваім галоўным становішчы ў Львові ня мінуў *нічога*, што-б магло памагчы разьвіцьцю ўніяцкай Царквы. Кіруючыся гэтакім паглядам, што Царква ёсьць для народа, мэтраполіт таксама шмат зрабіў і дзеля адраджэньня ўкраінскага народа. Усе ўкраінскія партыі цяпер прызнаюць вагу таго, што ён зрабіў.

Палітычная дзеяльнасьць мэтраполіта адзначаецца шырокім дэмократызмам. Калі народы Аўстрыі змагаліся за агульнае выбарнае права, мэтраполіт стануў побач абаронцаў гэтага права, а ў гэты час гэта было вялікае страхацьцё ў вачох консэрватараў. Калі ўся Эўропа была парушана вядомай справай Бэйліса, мэтраполіт заняў выразнае становішчо, адкідаючы факт рытуальнага забойства.

Мэтрополіт Шэптыцкі мае характар місыянера. Місыянерскія ідэалы яго не пакідаюць. Яго горачым жаданьнем зьяўляецца зварот Расеі да лучнасьці з каталіцкім касьцёлам. Ен—адзін з бацькоў уніонізма, які пачынае інтэрасаваць усё шырэйшыя колы каталіцкага духавенства, асабліва з паміж усходніх славянаў. Ен мае нейкія прароцкія здольнасьці: колькі гадоў да вайны ён прарочыў, што будзе адпраўляць літургію паводле ўніяцкага абрада,—і гэта ў часе вайны даслоўна зьдзейсьнілося. З упадкам у Расеі бальшавізма, магчымасьці шырэньня ў Расеі Уніяцтва будуць ізноў вялікія.

Дзеяльны, ня гледзячы на хранічную хваробу ног, мэтрополіт у часе вайны прайшоў праз страшэнствы маскоўскай няволі. Вялізарную радасьць зрабіў нам паварот яго ў Львоў, паварот падобны да трыумфу.

Беларускае адраджэньне ад самага свайго пачатку карысталося сымпатыямі мэтрополіта. Будучы перад вайной incognito ў Вільні, мэтрополіт інтэрэсаваўся беларускімі ўстановамі (быў у рэдакцыі „Нашай Нівы“) і наагул заўсёды інтэрэсаваўся беларускім справамі, а ў 1917 г., хутка пасьля свайго павароту ў Львоў, праз біскупа Язэпа Боцяна прыслаў сэрдэчнае павітаньне віленскім беларусам. З вялікім жалем мы прачыталі, што мэтрополіт праз нейкі час быў інтэрнаваны ў сваім палацы ў Львові; а сьмяшным у сваёй бязсільнай злосьці ёсьць факт перамены назовы вуліцы Шэптыцкіх у Львове на якуюсь іншую назову. Аб гэта мусіць і так мала дбае вядомы на ўсенькім сьвеце мэтрополіт Шэптыцкі.

**Кс. У. Толочко.**



## Поле роднае.

Ты і пелікай,
Ты і каменем
Апрыгожылась,
Поле роднае.

Ты і вёскаю,
Ты і горадам
Абнядолілась,
Поле роднае.

З непагодаю
І з няўродаю
Ты змагаешся,
Поле роднае.

Хоць куды, куды
Ты багатае,
Ты і ўбогае,
Поле роднае.

Ты багатае
Горэм сьлёзамі,
Ты ўбогае
Шчасьцем-долею.

Асшалеўшые
Віхры носюцца
Над табою век,
Поле роднае.

Людзі мучацца
Без прасьветнасьцяй,
Праклінаючы
Поле роднае.

Гэй, папраўся ты,
Адмяніся ты,
Разбудзіся ты,
Поле роднае!

1907 г. **Янка Купала.**

# БЕЛАРУСЬ.

## МЕНСК.

### ШКОЛЬНЫЯ СПРАВЫ.

У Вільні быў прадстаўнік ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску і Беларускае Школьнае Рады Меншчыны, лаўнік Менскага Магістрату, шэф сэкцыі асьветы і апекі грамадзкай, п. Ч. Родзевіч, у справах школьнага пытаньня як Меншчыны, так і места Менска.

Ён прадставіў у Упраўленьне „Усходніх Зямель“ дэталічна апрацаваны коштарыс на беларускія школы Меншчыны ў тэй лічбе і на вышэйшую школьную ўстанову—Пэдагогічны Інстытут у Менску, на агульную суму каля 9 міліёнаў рублёў на год. У гэтую лічбу ўваходзяць да 1000 беларускіх пачатковых школ, 2 беларускія сэмінарыі ў Менску і Барысаве, Пэдагогічны Інстытут, 2 беларускія гімназіі, выдавецтва школьных падручнікаў, утрыманьне паветавых інструктароў і шмат іншых арганізацыйных прац.

Улада ўжо зацьвердзіла 2 беларускія гімназіі: у Менску і Слуцку і Пэдагогічны Інстытут у Менску паводле коштарысаў, апрацаваных Менскай Школьнай Радай. Апрача таго асыгновано 100.000 руб. на выдавецтво школьных падручнікаў.

Пры Менскім Акруговым Школьным Інспэктораце ўстаноўлены пасад беларускага прэдстаўніка ад школьных спраў.

### Газэта „Звон“

ад 21 кастрычніка перамяніла сваю назову на „Беларусь“ дзеля таго—піша рэдакцыя — каб надаць сваей газэце ня толькі зьмест, але і абліччо беларускае.

### УРАДОВЫ ЗАГАД.

Паводле урадовага загаду, ў адношэньні да ўлады побач польскага языка насяленьне можа ўжываць беларускі.

Дзеля таго, што з боку розных ніжэйшых вураднікаў здараліся адмовы прыймаць прозьбы пісаныя ў беларускай мове, памянёны загад хутка будзе паўтораны.

(„Nasz Kraj„).

### Скасаваньне цэнзуры.

З 17-га кастрычніка скасавана папярэдняя цэнзура для газэт. Ад гэтага часу усе Менскіе газэты выходзяць без цэнзуры.

### Беларускі клюб

мае быць адчынены у хуткім часе, па ініцыятыве групы відных беларускіх дзеячоў. Шукаюць памяшканьня у цэнтры места.

### Вайсковыя справы.

У „Беларусі“ надрукавана гэтакая адозва Беларускай Вайсковай Камісіі:

---

ЯСАКАР.

## Васеньні сон.

Аганёк лампадкі хату асьвечае,
На пяколку дрэмле стары, сівы кот.
Сумна а поўночы. Выйду, пагуляю
Ля млыновай рэчкі, дзе шуміць чарот.

Вецяр крэхча, стогне; стогне лес сасновы,
Акраплёны зьяньнем буйных, ясных зор.
Над самотнай пусткай дзіка плачуць совы.
Я іду гасьцінцам аж на касагор.

Страхі мяне вабюць. Кліча ноч глухая
Да стагоў балотных, дзе карчы тарчаць.
Там далей альхоўнік рэчку атуляе,
Там далей магільнік, дзе крыжы стаяць.

Над крыжамі ўюцца жудасна начніцы.
Водэль за канавай выюць там ваўкі.
Я іду да хаты ведзьмы-чараўніцы,
Я чакаю зёлак ад яе рукі.

— Добры вечар, бабка! Хворы мае грудзі,
Вочы мае плачуць і душа баліць...
— Пэўне злыя чары напусьцілі людзі,
І тваё сэрдэнько, як агонь гарыць.

— Ой, зачаравала малада дзяўчына
Яснымі вачыма, дзіўным хараством;
Без яе каханьня гіну я, ой гіну,
Без яе каханьня цёмна мне і днём.

А яна жаўронкам кожны дзень на полі
Песьні распевае аб дзявочых снах;
Песьні маё сэрцо раняць аж да болі,
Песьні маю душу муцяць проста страх.

Ой, ратуй бабулька, ад красы дзявочай!
Гіну я ад гора, мейсца не знайду!
Шчасьця я жадаю, долю сэрцо хоча —
Маю толькі горэ, смутак і жуду...

— Ціха,—кажа ведзьма, — болей не пачуеш
Песень тых вясёлых, адпачнеш душой,
Болей аб дзяўчыне ты не засумуеш,
Будзеш спаць спакойна ночнаю парой.

„Дзеля таго, што ў хуткім часе мае формавацца беларуская армія, прапануецца афіцэрам, ваенным чыноўнікам і дактаром-беларусам зарэгістравацца.

Часова рэгістрацыя робіцца ў памяшканьні отэлю „Эўропа“ (Катэдральны пляц) ад 10 да 2 гадзіны у дзень.

Падпісаны:

Старшыня Камісіі **П. Аляксюк.**

Член Камісіі **А. Аўсянік.**

### З бальшавіцкай няволі.

Прафэсар Вацлаў Іваноўскі, вядомы беларускі дзеяч, які быў вывезены бальшавікамі як заложнік з Менску ў Смаленск, — як мы даведаліся—ўжо звольнены з бальшавіцкай няволі і хутка прыедзе ў Менск.

## ГОРАДНЯ.

### Грамада Моладзі.

14 кастрычніка адбыўся 2-гі агульны сход Грамады Моладзі. Сход адкрыў грам. Курбскі гімнам. На старшыню была паклікана П. Мядзіолко, якая у сваей першай прамове запрапанавала аддаць чэсьць ахвяраваўшым жыцьцё сваё барацьбе за адраджэньні Бацькаўшчыны ўставаньням і сьпевам „вечная памяць“.

Пасьля разгляду розных спраў выбралі кіраўніцтво у такім складзе: старшыня — П. Мядзіолко, памоцнікі старшыні—Курбскі і Амелянчык, сэкрэтар Салошык і скарбнік Дзекуць-Малей. Грамада ладзіць суботнікі, на праграму каторых кожная сэкцыя павінна штосьці даць, напр. рэфэрат, дэклямацыю, монолёг, музыку, сьпеў хорам і солё, нацыанальн. гульні і інш.

### Беларускі тэатр.

Грамада моладзі шчыра працуе на славу роднага тэатральнага мастацтва, ладзючы час ад часу беларускія спэктаклі, якія маюць вялізарны ўспех. Паміж публікай чуваць нават і польскую гутарку. Тым болей трэба падчыркнуць культурную работу нашай моладзі, што яня дае грашовую падмогу розным грамадзянскім і дабрадзейным установам. 20 ліпня йгралі: „Па рэвізыі“ і „Як яны жаніліся“, 7 верасьня: „Страхі жыцьця“ Алехновіча і „Мядзьведзь“ Чэхова, 19 верасьня: „Паўліна“ Купалы і „Міхалку“ (на карысьць бедных дзяцей беларускіх школ); 1 кастрычніка—„Страхі жыцьця“ (другі раз), 8 кастрычніка—„Маньку“ Алехновіча, 16 кастрычніка—(дармовы спэктакль для дзяцей беларусаў) „Паўлінка“ і „Міхалка“, 22 кастрычніка „Пашыліся ў дурні“ Крапіўніцкага.

Рэжысэрыя спачывае ў руках Паўліны Мядзёлко.

---

На курыных ножках хатка паказалась
Над глубокай процьмай без дзьвярэй, вакон;
На усе староны хатка заківалась,
Хтось завыў у процьме, гдзесь пачуўся стогн.

З ведзьмай мы праз комін ў хатку уляцелі:
Аддаець тут чадам, гідасьцю магіл.
Пазірае месяц жудасна праз шчэлі,
Мабыць тутка вечэ цёмных благіх сіл.

Блыскае вачыма чорны кот вусаты,
Чорт намаляваны вуглем на сьцяне.
Вые на пяколку ваўкалак касматы,
Рэхі яму ўтораць ў ночнай цішыне.

Косткамі людзкімі шчэліны запханы,
На смалістай траме зёлкі тут лежаць.
Пачала ведзьмарка выклікаць шайтана,
Пачала замовы страшныя шэптаць.

Закіпеў у печы саганак шчэрбаты,
Загарэўся ярка, затрышчаў смаляк.
Вось адсьвет крывавы ўсю напоўніў хату,
Па кутох, здаецца, чырванее мак.

Уся земля ўздрыгнулась з нейкай стрэляніны,
Разгулялась бура ў пушчы глыбіне.
Паказаўся раптам цень маей дзяўчыны,
Што зірнула з жальбай ціхай на мяне.

Хтосьці ў блізкай вёсцы плакаў і маліўся,
Хтосьці над імшарай дзіка рагатаў.
Хатка з ведзьмай зніклі. Мніх пры мне зьявіўся,
— Пойдзем на магільнік! — ён мне зашаптаў.

Ой чаму так гулка людзі бьюць у звоны?
Ды куды панесьлі новую труну?
Чы гэта хаўтуры? Што гэта за стогны?
Ой, каго хаваюць падайду, зірну.

Нада мною совы плакалі, насілісь,
Рухалісь, скакалі каля пліт крыжы,
На магільных ўзгорках мерцьвякі кружылісь.
Раптам стала ціха... жудасьць у цішы...

Курганок зямелькі сьвежай развярнуўся,
Новую магілку раптам хтось раскрыў.
Гэта-ж нябошчык ада сна прачнуўся,
І з магільнай ямы хтось загаварыў:

# БЕЛАРУСКІЯ ТЫПЫ.



Рожніца між вёскай і местам с кожным днём сьціраецца усё болей і болей. Крамныя пэркалікі ды інш. фабрычныя тандэты выпіраюць вясковае палатно і самадзял. Андак у глыбі нашай Беларусі вёска захоўвае свой народны характар і на прыгожай адзежы, і на прыладзе, і усюды ў штодзенным жыцьці людзей.

На нашай ілюстрацыі паказаны тыпы кабет Слуцкага павету ў народнай опратцы.

---

Губнік, страшны губнік! маладу дзяўчыну
Ты згубіў дарэмна страшнаю лукой.
Ссек маё ты жыцьце як серпом быліну,
Зрэзаў маё шчасьце востраю касой..

Я не вінавата, што люблю другога —
Сэрцо у любові мае вольны лёс.
Будзь ты проклят знакам Каіна благога,
Будзеш жыць ў пакуце, шмат пральеш ты сьлёз.

Выйшла із магілы, стала між крыжамі
І давай на месяц бледны пазіраць.
Валасы даўгія сыпалі агнямі,
Пачала дзявочы песьні расьпеваць.

Кінь ты, дарагая, песьні распеваці
Сумныя такія, поўныя жуды!
Кінь ты, дарагая, песьняй чараваці,
Гіну я ад гора, гіну ад бяды!

Цені палуночы, ў пасекі умчыцесь!
Уцекайце, страхі, у паля--лугі!
У драмучы боры, чары, унясіцесь!
Адыйдзі ад сэрца, страшны сон благі!

Гэй уціхамірцесь, маладыя грудзі,
Полымем шалёным губіце мяне!
Думы мяне губяць, Божанька, што будзе?
Ад паўночных зданьняў дай ратунку мне!..

Прачыхаюсь с крыкам. Маць мяне пытае:
— Што ты, мой сыночку, ува сьне стагнаў?
Непрытомны вогнік у вачох зіяе...
Мо' упыр магільны кроў тваю смактаў?

Мучае гарачка. Я дрыжу, трасуся.
— Маці, я у горэ; маці, я ў бядзе...
— Вось жа, мой сыночку, зараз памалюся —
Страшны сон забудзеш, страх твой адпадзе.

Матка у трывозе сьвечку запаляе,
На усе староны крыж рукой кладзе,
І вадой сьвянцонай хатку акрапляе,
Абразок старэнькі ў рукі мне дае.

Перад добрым Спасам стала на кален,
Пачала малітвы гаварыць ў цішы...
Зьніклі злыя чары, зьніклі злыя цені,
Стало гэтак лёгка, добра на душу...

**1918 г. восень**

# КРОНІКА.

### БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Ў ВІЛЬНІ.

9 верасьня пачаліся ўжо лекцыі ў беларускай гімназіі.

Цяпер у гімназіі вучыцца больш за 300 вучняў і вучаніц. Гімназія перажывае цяпер грашовы крызыс. Надыходзе зіма і няма ведама скуль узяць дровы на апал і аплату вучыцельскага пэрсонэлю.

Пры гімназіі ёсьць інтэрнат, у якім жыве каля 70 вучняў.

Дагэтуль у гімназіі вучыліся глаўным чынам мястовыя дзеці. Цяпер, трэба адзначыць, што паступаюць у гімназію і дзеці з правінцыі, — гэтакім чынам гімназія пачынае абслужываць і селянство.

Дагэтуль вучэньне большасьці навук ў гімназіі ў старшых клясах, пачынаючы ад 4-ай, вялося па расейску, дзеля гэтай прычыны, што ня было яшчэ ні падручнікаў, ні падгатоўленага пэдагогічнага пэрсонэлю, ні апрацаванай навуковай тэрмінолёгіі. Праз сёлетні год зрабілося шмат ў гэтым напрамку. Нас паведамляюць з канцэлярыі гімназіі, што на будучы год **усе навукі ува усіх клясах будуць па беларуску**.

### II БЕЛАРУСКІЯ ВУЧЫЦЕЛЬСКІЯ КУРСЫ.

Кончыліся 25 кастрычніка. Праслухало курсы 233 чэлавекі, у гэтым ліку каля 200 асоб з Віленшчыны, іншыя—з Горадзеншчыны. Вялікія труднасьці былі з боку харчаваньня курсантаў, дзеля таго што местовы апровізацыйны аддзел ня мог у дастатачнай меры даць прадуктаў. Польскай уладай было асыгнавано на курсы 58.900 рублёў; з гэтай сумы 53.000 асыгновано на страваваньне курсантаў, а рэшта—2,400 на ганорар лектарам (8 р. за гадзіну), 2.000 на аплату ніжэйшага пэрсанала і 1.500 на дапамогі курсантам.

Трэба адзначыць, што 53.000 руб. на страваньне курсантаў не хапіло, дзеля таго што прыйшлося купляць прадукты па рыначным цэнам. З гэтай прычыны школьная Рада пры Цэнтр. Белар. Радзе Віл. і Гор. зьвярнулася да школьнага інспэктара Віленскага округа з прозьбай даасыгнаваць перэрасходаваныя грошы (каля 20.000 руб.).

### АСАБІСТАЕ.

Старшыня Цэнтр. Бел. Рады Віл. і Гор. грамадз. Тарашкевіч выехаў у Варшаву дзеля агульных спраў.

### БУЦЛАЎ.

На прозьбу школьнай Рады пры Цэнтр. Бел. Радзе Віл. і Гор. аб тым, каб ізноў адчыніць у Буцлаве беларускую гімназію, віленскі школьны інспэктар адказаў адмоўна, згаджаючыся толькі на беларускую школу.

# Аба усім па троху.

Адзін з найслаўнейшых польскіх драматургаў, Станіслаў Пшыбышэўскі, праз апошнія гады жыў у Мюнхэне. Калі адбудавалася яго бацькаўшчына, вярнуўся ў Познань, гдзе выставіў сваю кандыдатуру на дырэктара тэатру. Але спаткалі яго вельмі сьцю-

дзёна і не далі яму гэтага становішча. І вось той, хто калісьці быў прарокам у сваёй бацькаўшчыне, прымушаны быў дзеля куска хлеба... пайсьці на службу на почту як пачтовы чыноўнік.

# АМБІЦЫЯ.

Вельмі зьмяніліся часы апошнія —
Чуем мы скрось пагалоску:
Усе дастаткі і грошы паводкаю
З горада сплылі у вёску.
Сяньні Анісім з жонкай Кулінаю
Згодна гамоняць у хаце:
«Чорт іх з грашыма, ні хаты-ж абклеіваць,
А на спажыцьце нам хваце!
Лепш во паедзем мы за справункамі;
Грошы цяпер горш мякіны —
Поўны прыскрынак: керенкі ды царскія,
Іх ужо больш поўасьміны.
Ня трэ шкадаваці— мышы пашастаюць,
Гэтай брыды сабярэцца,
Абы картопля, авёс з канюшынаю,
Млека ды сала пры грэчца.
Ну дык зьбірайся!» Едуць. Прыехалі...
Ужо ў магазыне. Тавару
Есьць там усякага многа раскідана,
Куліне аж жар бье па твару.
Жарты: едвабы, батысты цянюткія,
Газы, фуляры бяз конца,
Розных калёраў канавусы панскія
Разюць у вочы, як сонца
Пекна ды хораша. Куліне сцікаўленай
Вельмі усё да спадобы.
Сяньні ня тое, маючы грошы
І аб цану ужо мала таргуюцца
Больш выбіраюць да густу.
Толькі малюнкі былі каб у скрыначкі,
Буйныя ружы з капусту.
Або ў крупінкі—як мак ці гарошына,
Або у дробныя веткі.
Крамны прыкашчык с прывычкі стараецца
Пад густ падабраць для кабеткі.
Шмат навярнуў на прылавак аздобіны
Змогся аж бедны з работы,
Але яшчэ штось дастаў і паказвае
У нейкія кропкі як, ноты.
«Во матэрьял! гляньце, вось золата!
Гэта паследняя мода»!..
«Якто паследняя?! на што нам паследняя?!
Кпіш з нас, ці лепшаго шкода?
Грошы ня роўны?"—Анісіма з жонкаю
Гнеў кальнуў моцна у грудзі. —
„Мусіш даць моду самую першую,
Ні абы якія мы людзі"!

**А. Паўловіч.**



**Рэдакцыя і Адміністрацыя**: Сьв. Міхальскі завул. 2, кв. 16. Ад 4 да 7 гадзіны ў вечары апрача сьвят.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военнаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва»